# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 40 (1690) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК, 2 КАСТРЫЧНІКА 1988 г. ЦАНА 20 зл.





## ВЯРНУЦЦА ДА КАРЭННЯЎ

**РАЗМОВА З ПЕРШЫМ САКРАТАРОМ ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР НІЛАМ ГІЛЕВІЧАМ.**

**Пытанне:** Раскажыце, калі ласка, аб сённяшнім дні Саюза пісьменнікаў БССР!

**Адказ:** На сённяшні дзень у радах Саюза пісьменнікаў БССР каля 380 чалавек. Многа гэта ці мала? Калі параўноўваць з Грузіяй, Арменіяй і прыбалтыйскімі рэспублікамі, дык мала. У гэтых рэспубліках, беручы пад увагу колькасць жыхароў, пісьменнікаў значна болей, чым у БССР. А калі параўнаемся з Украінай, дык акажацца, што колькасць пісьменнікаў у БССР і ва УССР прыблізна тая самая. Зразумела, у тым выпадку, калі будзем параўноўваць іх з агульным лікам беларусаў і ўкраінцаў. Аднак гэта не праблема, бо справа ўрэшце не ў колькасці, а ў якасці. Важна тое, колькі ў агульнай пісьменніцкай масе добрых арыгінальных літаратурных талентаў. Вядома, што бадай у кожнага народа, у тым ліку і ў нас, колькасць літаратурных самабытных талентаў намнога меншая, чым агульная колькасць пісьменнікаў. Аднак трэба сказаць, што існуе аб'ектыўнае меркаванне аб тым, што ў нашай прозе, і ў паэзіі, і ў драматургіі нямала арыгінальнага і цікавага. Хацелася мне тут прыгадаць прозвішчы такіх талентаў, як Іван Мележ або Васіль Быкаў, ці пісьменнікі, якіх часта завуць дзецьмі вайны, — Вячаслаў Адамчык, Анатоль Кудравец. Нельга не сказаць добрага слова і аб выдатных беларускіх паэтах Аркадзю Куляшове, Піліпе Панчанку, а сярод паэтаў сярэдняга пакалення — Рыгор Барадулін, Пятрусь Макаль, Анатоль Вярцінскі, памершы нядаўна Сцяпан Гаўрусёў і крыху маладзейшыя Жэня Янішчыц, Алесь Разанаў. Думаецца мне, што ўсе гэтыя творчыя асобы цікавыя не толькі для нас, але, мабыць, і для іншых народаў. Цікавыя феерверкі паяўляюцца і ў драматургіі. Для прыкладу, не так даўно ў нас засвяціўся Алесь Дудараў.

(Працяг на стар. 3)

## дэлегацыя ад „Радзімы"

**✲ Мост між беларусамі**
**✲ На навуку — у БССР**
**✲ У піянерскія лагеры і санаторыі**
**✲ Дапамога самадзейнікам**

По запрашэнню Галоўнага праўлення БГКТ на працягу пяці дзён (5—9 верасня г.г.) прабывала ў Польшчы афіцыйная дэлегацыя ад Беларускага таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за мяжой „Радзіма". Гэтую дэлегацыю саставілі: першы намеснік старшыні Прэзідыума Беларускага таварыства „Радзіма" — М. І. Васілёнак, галоўны рэдактар прэсавага органа гэтага ж таварыства, штотыднёвіка „Голас радзімы", — В. Г. Мацкевіч і старшы рэферэнт праўлення Беларускага таварыства „Радзіма", адказны за культурныя сувязі з суайчыннікамі, К. І. Шалястовіч.

Дэлегацыя ад „Радзімы" перш за ўсё цікавілася справамі, што датычаць беларусаў, пражываючых у Польшчы. ПНР з'яўляецца той краінай у свеце, на тэрыторыі якой спрадвеку пражывае найбольш людзей, захаваўшых духоўную і культурную лучнасць з больш чым дзесяцімільённым беларускім народам. Кожны трэці беларус, які апынуўся за межамі СССР, пражывае ў Польшчы. Як пракласці пуцявіну да іх сэрцаў, чым можна ўзбагаціць іх культурнае жыццё — гэта асноўныя праблемы, якімі цікавіліся нашы госці з БССР.

Найперш яны сустрэліся з кіруючым актывам БГКТ, затым з'ездзілі ў сталіцу і склалі візіт кіраўніцтву таварыства „Палонія". Вярнуўшыся з Варшавы, члены дэлегацыі наведалі ліцэі з беларускай мовай у Бельску і Гайнаўцы, азнаёміліся з пабудовай музея ў Гайнаўцы, пабывалі ў Белавежы і Белавежскай пушчы ды прынялі ўдзел у сардэчнай вечарынцы, наладжанай актывістамі Гайнаўскага гуртка БГКТ.

8 верасня было склікана пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ, у якім удзел узялі таксама члены дэлегацыі ад „Радзімы". Абмяркоўваліся ў асноўным праблемы супрацоўніцтва паміж БГКТ і Беларускім таварыствам „Радзіма". А ўвечары гэтага дня адбылася сустрэча ў Беластоцкім гарадскім гуртку БГКТ з членамі Беластоцкага самадзейнага хору.

У ліцэях у Бельску і Гайнаўцы моладзь перш за ўсё цікавілася вырашэннем нацыянальнага пытання ў БССР ды магчымасцямі паездкі на вучобу ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі. Члены дэлегацыі ад „Радзімы" шмат расказалі пра беларускае адраджэнне ў БССР, а старшыня М. І. Васілёнак заявіў, што яны не завіталі да нас з пустымі рукамі. Апрача сімвалічных падарункаў (каштоўныя кніжкі, цікавыя пласцінкі, прыгожыя шкатулкі і т.п.), прывезлі яны канкрэтныя прапановы, якія напэўна замацуюць сувязь беларусаў у ПНР. Кожны год цераз беларускае таварыства „Радзіма" 3-4 выпускнікі з беларускіх ліцэяў (незалежна ад міністэрскіх накіраванняў) змогуць паступіць (без экзамена!) у ВНУ у БССР. Прэфераваныя будуць напрамкі вучобы па падрыхтоўцы спецыялістаў для статутовай дзейнасці БГКТ, перш за ўсё для дапамогі самадзейнаму руху.

Беларускае таварыства „Радзіма" кожны год будзе рэзерваваць 3—4 месцы для беларускіх дзяцей у спецыяльных піянерскіх лагерах, у якіх адпачываюць дзеці беларусаў з розных краін свету. Такая група вучняў з Бельскай „тройкі" пабывала на

(Працяг на стар. 2)



Госці і гаспадары ў Гайнаўцы, каля будучага Беларускага музея.

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 352

## МОЙ БАЦЬКОЎСКІ ПАРОГ

Мой бацькоўскі парог з перагнiўшага дуба,
Колькі дум на табе я ў дзяцінстве злажыў —
Ці то з свежай вадой выхіляючы кубак,
Ці глытаючы ягады з дзікай мяжы...

Часам зоркі лічылі мы вечарам летнім,
Варажылі, каторая будзе маёй, —
Для якой панясу я чаромухі кветкі,
Шчырым сэрцам якую назаву дарагой.

Ты маўчаў увесь час, бы мудрэц з нейкай казкі,
Бо ўсе словы рассыпаў ў гадах маладых —
Калі вецер галіны твае лісцем ласкаў,
А навокал шумелі калегі-дубы.

Мне здавалася ўсё, што я чую твой голас:
„Паглядзі на мой мох, на маю галаву —
Не адна мяне бура на часткі калола,
Дый цяпер вось, хоць мёртвы даўно, а жыву!

Не адно пакаленне мае плечы топча, —
Хто вышэйшы, дык схіліць яшчэ галаву,
Не адны тут аплакалі прошлае вочы,
Не з адным гаварыў, як з табой гавару.

Толькі рад аднаму, што людзям паслужыў,
Што рассыпаў смуткі, як цвёрды гарох,
Усім, хто мне па гадах на стары горб ступіў
І сказаў: „Добры дзень, мой бацькоўскі парог!“

**Уладзімір**

## ПАСЛЯ РЫБАЛКІ

Пасля рыбалкі два рыбакі — пенсіянеры
Паклалі ўлоў і вуды, пагутарыць прыселі.

У начной імгле пачаў золак разгарацца;
Рыбакі ў світанне — як у прошлае — угледацца...

— — — — — —

Дзень устаў. Зноў шастае, трашчыць лазіна,
А рака нясе, нясе ўспаміны...

**Юрка Баена**

## ДА НЕБА

Здароў Груган!
Ты птах — я чалавек.
Дзе крылы у цябе —
я маю рукі.
Ты не крыўдуй на гэты
несусветны здзек, —
Прабач, я выдумляю
ад пакутлівай дакукі.

Лунай Груган!

Груган за неба паляціць.
Яму за небам хоціць месца.
А я радзіму буду сніць,
Яна мне кропелькай здаецца.

Ты пачакай мяне Груган.
Мы разам паляцім да неба.
Пачуем велічны арган,
Пабачым — крылы ці патрэбны.

І я здзіўлюся — звыкся сніць —
Воч не стае Радзіму ахапіць!

**Алесь Аркуш,**
**Наваполацк**

*

у дэфармаваных педагогамі
і кнігамі
клетках мозгу
нарадзілася адна зграбная думка
але праз хвіліну яе таксама
забыў

**Іштван Дабі**

## У ЦЯГНІКУ

З бетоннай спальні гарадской
Усё жыццё сваё няспынна
Імкнуся сэрцам і душой
Я да сваёй малой айчыны.

У цягніку, у цягніку,
Паміж Варшавай — Беластокам,
Частку жыцця свайго таўку,
Загублены і адзінокі.

Жыву як заяц на мяжы,
Што не сагрэе свайго следу,
Усім чужы, усім чужы,
Калі ж я да сваіх даеду?

Калі ж сыйду я з цягніка
І больш не буду толькі госцем
У краі брата-земляка,
Краі дзяцінства, маладосці?

**Віктар Швед**

## АНАТОЛЬ ЯНКОЎСКІ

**Анатоль Янкоўскі — настаўнік беларускай мовы і літаратуры, фальклярыст, кандыдат філалагічных навук. Пражывае ў Мінску. З'яўляецца падпісчыкам „Нівы“. Замалёўка „Ваўкоў не трэба... Не трэба ваўкоў!“ з'яўляецца яго першым крокам на ніве мастацкага слова.**

## ВАЎКОЎ НЕ ТРЭБА... НЕ ТРЭБА ВАЎКОЎ!

Сыры і маўклівы восеньскі надвячорак.

У холе прафілакторыя блазнуюць два пойгранкі: аднаму — гадкоў чатыры, другі — крыху старэйшы. Бегаюць сабе, траскочуць цацачнай зброяй.

Адзін з дарослых падлез пазабаўляцца з малымі. Ён узняў высока ўгару рукі, вызебрыўся і пайшоў на іх у „атаку“:

— Га-а-а... Я — буржуін! Га-а-а... У палон вас! Большанькі не спалохаўся жахлівай паставы „ворага“. Ён тут жа пачаў кружыць вакол яго і разпораз націскаць на курок свайго электрычнага кулямёта. Цэліў-прыцэльваўся ў буржуіна.

А той усё выгінаўся ды страшыў:

— Забяру! Забяру-у-у...!

Меншы хлопчык спачатку здзіўлена паглядаў на дарослага, а потым, шморгаючы носам, пачаў адступацца ўбок.

Страшнік убачыў, што дзіця палохаецца яго, і загаварыў сцішана, пяшчотна:

— Дзеткі, у „Буржуіна“ мы пагулялі. Цяпер я буду воўкам, а вы — зайчыкамі.

— Вось ты, — і ён азваў меншага. — Ты будзеш скакаць зайчыкам. Я буду цябе лавіць... Бяжы, уцякай ад мяне.

Хлапчанё адбеглася ад яго яшчэ далей і залілося слязьмі:

— Я не хачу так! Не хачу, не хачу ваўкоў!

Вахцёр, што сядзеў-драмаў каля стала, нечакана ажывіўся:

Ы-ыш чаго захацеў! Ён не хоча ваўкоў?!... На етым свеце, галубок, хтосьці кагосьці далжон жа кусаць ды есці. Іначай і быць не можа!

Дзіця разгублена аціхла:

— Я не хачу... Я не хачу ваўкоў! Ваўкоў не трэба, не трэба...

## ВЯРНУЦЦА ДА КАРЭННЯЎ

(Працяг са стар. 1)

Найбольшае засмучэнне выклікае сітуацыя ў дзіцячай літаратуры. Па сутнасці ўжо даўно ў нас няма такіх аўтараў, якія б шырока ішлі па ўсяму Савецкаму Саюзу і за мяжу. Не ведаю, што здарылася. Быць можа, звязана гэта з крызісам савецкай школы, з крызісам нашай педагагічнай навукі і, мабыць, крызісам грамадскай маралі. Мне здаецца, што дзіцячая літаратура ў значна большай ступені, чым літаратура для дарослых, паддаецца гэтым крызісам, бо вядома, што ўсе дзіцячыя пісьменнікі па свайму нутру педагогі і настаўнікі, выхавацелі. Ну, і вядома, калі ў тупік зайшла школа, дык у тупіку апынулася і дзіцячая літаратура.

З пэўнай незадаволенасцю гавару і аб беларускай сучаснай публіцыстыцы. Калі яе параўноўваем з рускай публіцыстыкай або нават з літоўскай, то кідаюцца ў вочы шматлікія нашы недахопы. Няма ў нас ні той вострасці, ні той палымянасці, ні той адвагі, якія ёсць у іншых. Не хачу сказаць, што няма ніякага зруху, зрух адбыўся. Асабліва моцна кідаецца гэта ў вочы ў выпадку „Літаратуры і Мастацтва“. Аднак іншыя газеты і часопісы выразна адстаюць.

**Пытанне:** Гадоў пятнаццаць таму назад я быў на вашым адкрытым партыйным сходзе. На такім жа адкрытым сходзе прысутнічаў я ў пачатку чэрвеня бягучага года. Па сутнасці гэтыя сходы нельга параўноўваць. Той даўні быў пуставатай гамонкай аб брыдкім імперыялізме, гэты ў цэласці адносіўся да балючых унутраных савецкіх спраў. Адным словам, да ўласнай брыдоты. Тады пісьменнікі прамаўлялі чужымі галасамі. Цяпер прамовілі поўным болю ўласным крыкам. Скажыце, што сталася з беларускімі пісьменнікамі? Хто іх адмяніў? Ці ёсць новая эпоха ў беларускім літаратурным і маральным мысленні?

**Адказ:** Не сумняваюся, што выступаюць новыя з'явы. Калі нават не пачалася новая эпоха, то ўсё ж такі стаім на парозе новага этапа. Беларускія пісьменнікі зразумелі тое, што разумее большасць савецкіх людзей. Далей мы ўжо не можам так жыць, як жылі дагэтуль. Існуе неабходнасць многае мяняць у нашым грамадскім жыцці і пачынаць жыць па-іншаму. Ваша ўражанне аб іншасці двух сходаў непамылковае. Сапраўды, гэта розныя сходы. Я тут наракаў на нашу перыёдыку і вось хацеў сказаць, што многае з таго, што гаворыцца сёння на партыйных сходах, на пленумах, не пападае ў друк. Чаму? Таму, што нямала ў нас яшчэ такіх людзей, якія не гатовы падтрымаць шчырую, вострую, прынцыпіяльную размову, але гатовы зрабіць усё, каб такія размовы, якія вядуць пісьменнікі, не пападалі ў друк. Хачу сказаць і аб горшым. На жаль, у нас ёсць яшчэ гэтакія сілы, якія робяць усё, каб перашкодзіць тым тэндэнцыям, якія праявіліся на ўпамянутым вамі сходзе. Якія гэта сілы? Гэта тыя сілы, якія тармазяць перабудову. Часта яны хітруюць, прыкідваюцца, гаворачы: мы за! А ў сапраўднасці яны супраць. Чаму супраць? Думаю, што іх супраць гэта абарона тых сацыяльных заваёў, тых прывілегій, якія яны атрымалі ў часе культу асобы і брэжнеўскага застою. Яны добра ведаюць, чым ім пагражае поўная дэмакратызацыя

(Працяг на стар. 4)

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

### АЎКЦЫЁН У КРАКАВЕ

У днях 12—14 кастрычніка г.г. у кракаўскім Палацы пад Баранамі (Галоўны рынак 27) адбудзецца 66-ты кніжны аўкцыён. Ніжэй падаем, паводле аўкцыённага каталога, загалоўкі тых выданняў, якія могуць зацікавіць нашых чытачоў.

Poz. 2 — Abraham W., Powstanie organizacji kościoła łacińskiego na Rusi, t. 1, Lwów 1904, cena wywoławcza 2,5 tys. zł.

Poz. 112 — Bułhak J., Narocz największe jezioro w Polsce, Wilno 1935, c. w. 600 zł.

Poz. 132 — Chodźko J., Pan Jan ze Świsłoczy kramarz wędrujący, czy. 1—2, Wilno 1824, c. w. 2 tys. zł.

Poz. 136 — Chotkowski W., Dzieje zniweczenia św. Unii na Białorusi i Litwie, w świetle pamiętników Siemaszki, Kraków 1898, c. w . 3,6 tys. zł.

Poz. 170 — Dangel S., Rok 1831 w Mińszczyźnie, Warszawa 1925, c. w. 1,2 tys. zł.

Poz. 261 — Giżycki J.M., Z przeszłości Karmelitów na Litwie i Rusi, cz. 1—2, Kraków 1918, c. w. 4,5 tys. zł.

Poz. 381 — Kamieniecki W., Rozwój własności na Litwie w dobie przed I. Statutem, Kraków 1914, c. w. 600 zł.

Poz. 607 — Mikołaj II, Pamiętniki... od roku 1890 do 31 grudnia 1917, W-wa 1924, c. w. 2,5 tys. zł.

Poz. 629 — Mościcki H., Pod znakiem Orła i Pogoni, W-wa 1915, c. w. 2 tys. zł.

Poz. 704 — Ossendowski F.A., Polesie, Poznań br. w., c. w. 8 tys. zł.

Poz. 706 — Ossendowski F.A., Puszcze polskie, Poznań br. w., c. w. 7 tys. zł.

Poz. 761 — Pojezierze Augustowsko--Suwalskie, Przewodnik krajoznawczy i turystyczno-letniskowy, Augustów 1937, c. w. 600 zł.

Poz. 788 — Pruszkowski J., Martyrologium czyli męczeństwo Unii S-tej na Podlasiu, czy. I. 1864—1882, Lublin 1921, c. w. 1 tys. zł.

Poz. 899 — Skorowidz miejscowości Rzeczypospolitej Polskiej, t. 5: Województwo białostockie, W-wa 1924, c. w. 1,5 tys. zł.

Poz. 914 — Słotwiński A., Unia Podlasko-Chełmska od 1875—1885, Czaca 1893, c. w. 1,5 tys. zł.

Poz. 928 — Spis imion Prawosławnych w brzmieniu polskim i starocerkiewno-słowiańskim uzgodniony z M.W.R. i O.P., W-wa 1936, c. w. 600 zł.

Poz. 1110 — Wróblewski K., Żubr puszczy białowieskiej, Poznań 1927, c. w. 2 tys. zł.

Poz. 1235 — Schmuck A., Z Pińska do Augustowa kajakiem, Lwów 1937, c. w. 500 zł.

Poz. 1319 — Federowski M., Lud białoruski na Rusi Litewskiej, Tom 4, W-wa 1935, c. w. 4 tys. zł.

Poz. 1337 — Hołubowicz W., Garncarstwo wiejskie zachodnich terenów Białorusi, Toruń 1950, c. w. 900 zł.

Poz. 1396 — Pietkiewicz Cz., Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego, Materiały etnograficzne, W-wa 1938, c. w. 2 tys. zł.

Poz. 1397 — Pietkiewicz Cz., Polesie Rzeczyckie, Materiały etnograficzne, Część I, Kultura materjalna, Kraków 1928, c. w. 1 tys. zł.

**У аўкцыёне можна таксама прыняць удзел пісьмова. У заказах, якія трэба кіраваць па адрасу: Antykwariat Naukowy, ul. Bracka 6, 31-005 Kraków, неабходна падаць нумар пазіцыі, прозвішча аўтара, загаловак і найбольшую суму грошай, якую заказчык можа заплаціць за кнігу.**

**Пятро Байко**

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ




*Стары Беласток — Баяры. Малюнак У. Петрука*

## З маёй званіцы

# І ЗМУЧАНЫ, І СОН НЕ БЯРЭ

Хачу напісаць, як прамінуў дзень, адзін дзень у маім грамадскім жыцці. Заначаваў я на „Мазурах". Гэта раён Гайнаўкі. Раніцай пайшоў на станцыю ПКС. Першая перашкода — трэба перайсці цераз мокрую гліну, бо тут дарогі не ўпарадкаваныя. Другая перашкода — гэта вуліца Крывая. Яна лучыць „Мазуры" з Гайнаўкаю. Жыхары шасці блокаў і асабнякоў дзень у дзень ходзяць сюдою. Над вуліцай павісае дах недаваленага чагосьці, ні то дома, ні то барака. Сюдою ездзяць усякія і ўсяляк машыны, бо аніякіх знакаў для руху няма. Сустрэчныя машыны размінуцца не могуць, але гэта шафёраў не бянтэжыць, неяк дамаўляюцца адзін з адным.

А гэты павісаючы дах, думаю, калісьці ўпадзе на кагосьці, і добра яшчэ будзе, калі той хтосьці застанецца ў жывых... А калі глянеш на плот і на тое, што за плотам, дык валасы дубаса станавяцца пад шапкаю. Мы безнадзейна і назаўсёды прызвычаіліся да балагану і неладзі. Мы — гэта значыць, што і ўлады таксама.

Станцыя ПКС. На аўтобус у Кляшчэлі а сёмай сорак чатыры не прадаюць білетаў. Шафёр, на шчасце, удаўся чалавекам спагадлівым і культурным. Завёз ён мяне не толькі ў Кляшчэлі, але і ў Сухавольцы пасля, і паказаў дарогу ў Сакі. Такім людзям аж хочацца падзякаваць!

Гожая вёска, тыя Сухавольцы. Шырокая, асфальтаваная вуліца, без сярэднявечнай гразнюхі. І водаправод ёсць. У Сухавольцах, у Саках, і ў Залешанах.

У Саках пабываў я ў школе. Трэба было. Ціха тут і спакойна. Дзяцей мала. Рамонт. У панядзелак дзень, як кажуць, майстэрскі, таму работнікаў не відаць. Усё кінута-рынута.

Вяртаюся я ў Гайнаўку. А пятнаццатай гадзіне ўваходзіць у аўтобус нейкі хлапчук і адразу займае два месцы. Калі ў дарозе, на прыпынку ў Елянцы, уваходзіць старэйшая жанчына і просіць даць ёй сесці, той хлапчук цвёрдым голасам адганяе яе. „Занятае!" — прабасіў. Іншыя даюць месца кабеце, пажылыя людзі. А гэты хамскі пан пратрымаў месца незанятым аж да Дубічаў-Царкоўных, у якіх прысеў да яго знаёмы.

У Гайнаўцы вялікая чарга ў аптэку. Жанчыны пераважна. Яны чакаюць „гігіенічных сродкаў", перш за ўсё, відаць, ваты. Бачу знаёмага дзеяча і пытаюся: чаму гэта так? А ён кажа: транспартнікам плацяць за давоз матэрыялаў у пералічэнні на тоны, а вата надта ж лёгкая, але месца ў кузаве грузавіка шмат займае. Не аплачваецца ім. Вось так. Таму і чарга.

І далей чую гэтага дзеяча:

— Паглядзі, — кажа, — што чаўпецца ў Дэлікатэсах! Дзікая паніка наконт змены цэн...

Сапраўды, народ ашалеў. Прадаўшчыцы мокрыя ад поту, прычоскі прыліпаюць ім да ілба. Тлум хапае ўсё, што пад рукою! Алкаголь, цукар, крупу, муку. У кіёсках не купіць нават зубной пасты. Запалкі сяк-так ёсць у продажы. І газеты... Газет не бракуе, мала іх ужо чытаюць. Нікому і ў нічым не вераць людзі.

Наглядзеўшыся ўсяго гэтага за цэлы божы дзень, з шумам у галаве пайшоў я дамоў. І змучаны, і сон не бярэ.

**Асот**

# ВЯРНУЦЦА ДА КАРЭННЯЎ

**(Працяг са стар. 3)**

і перабудова. Пагражае ім ліквідацыяй прывілегій, пагражае ім тым узроўнем жыцця, якім жыве народ. А яны не хочуць жыць так, як жывуць усе. Ідзе ў нас барацьба. Адбываюцца ў нас рэвалюцыйныя перамены. Пісьменнікі мусяць быць разам са звычайнымі людзьмі.

**Пытанне:** Беларуская мова дакацілася да краю прорвы. Адступаць далей нельга, бо далей пагібель. Ці вы не думаеце, што для беларускай мовы ў БССР ёсць усё ж такі ратунак?! Ці не думаеце, што ратунак гэты вельмі просты? Ці ж беручы пад увагу перыяд беларусізацыі, калі ў БССР гаварылі па-беларуску і сакратары партыі і прэм'еры, што дало фенаменальныя вынікі пасля соценъ гадоў жорсткай русіфікацыі і паланізацыі Беларусі, нельга меркаваць, што і сёння ўжыванне беларускай мовы і партыйнымі, і адміністрацыйнымі, і прафсаюзнымі дзеячамі радыкальна і хутка памяняла б сітуацыю?

**Адказ:** Бясспрэчна. Я такую думку выказваў ужо не раз і на спомненым пленуме Саюза пісьменнікаў у маі месяцы сказаў у дакладзе, што беларускую мову ў Беларусі трэба зрабіць мовай дзяржаўнай, мовай правасудства, мовай нашага парламента, мовай судоў. А як гэта ажыццявіць? Усе высокапастаўленыя асобы павінны карыстацца беларускай мовай і гэта прывядзе да вырашэння ўсіх іншых праблем, звязаных са станам беларускай культуры і беларускай навукі і асабліва са станам беларускай школы, а таксама прамысловай вытворчасці, гандлю, паслуг і г.д. Без статуса дзяржаўнасці беларуская мова не дасягне высокага прэстыжу. Прыклады тут мусяць даць першыя асобы ў краіне. Вядома, што ў свой час у нашай краіне быў узяты безразумны курс на зліццё моў, культур, нацый. Зразумела, што тут можам мець прэтэнзію і да інтэлігенцыі, і да навукоўцаў, і да пісьменнікаў, якія не далі дастатковага адпору гэтым небяспечным і нікому непатрэбным тэндэнцыям.

**Пытанне:** Два гады таму назад я быў у Беларускім дзяржаўным універсітэце на семінары, прысвечаным беларускаму фальклору. Прыехалі фальклярысты з многіх беларускіх навуковых цэнтраў. Ці вы ведаеце, што болей як палова з іх гаварыла не па-беларуску. Толькі падумайце, фалькларысты — сыны і дочкі беларускага народа, жывуць з беларускага слова, сустракаюцца ў сэрцы Беларусі — Мінску, у Беларускім дзяржаўным універсітэце і не ўжываюць той мовы, якая для іх з'яўляецца хлебам. Ці ж можам сабе ўявіць, скажам, рускіх фалькларыстаў, якія сустракаюцца ў Ленінградзе, Пскове ці Яраслаўлі і вядуць фалькларазнаўчыя, унутраныя — не міжнародныя, дэбаты не па-руску? Такіх вучоных, мабыць, выгналі б з любой рускай навуковай установы. А ў БДУ ніхто ім не сказаў благога слова. Ці гэта не ганьба?

**Адказ:** Ці ганьба? Ганьба, да!

*(Працяг размовы ў наступным нумары).*

**Гутарыў Алесь Барскі**

## БАБА КАЦЯРЫНА

Баба Кацярына ўмярла. Была цэлае жыццё такая работная, шчырая да працы. Сям'я вялікая была, рабіць трэба было, карміць усіх трэба было. Некалькі гадоў ляжала, не ўставала, ногі адняло. Хацела ўмярці. Усе казала: „Хачу ўмярці ўжо. Чаму мой мяне не забірае?“. Усе гаварыла да памершага мужа, усе пыталася ў яго пра рознае. Помню, калі вялі нябожчыка аднаго вуліцай на могілкі, глядзела ў акно і прасілася: „Вазьміце і мяне, закапайце, нашто мне ляжаць усе“.

І наступіў вылеў і два дні дыхала цяжка, цяжка. Моцна хацела ўсе трымаць дачку за руку і так моцна сціскала яе. Ужо не гаварыла і не рухалася. І так заснула як бы. Адыйшла. Было ёй 96 гадоў. **(Ад Міхалова)**

## ГАРЭЛКА — ЧАРТОЎСКІ НАПІТАК

Адзін дзядок з Плёскаў памалу хадзіў. Напіўся неяк і зайшоў не да Плёскаў, ідучы з прыпынку на шашы, але аж на прыпынак у Зубаве, мінуўшы вёску Плёскі. І калі апрытомнеў там, то расказваў усім, што ён сюды прыйшоў, бо яго прывёў адзін хлопец, які ўвесь час ішоў спераду.

Адна жонка ад свайго мужыка-п'яніцы хавала гарэлку ўсюды. А ён усё знаходзіў. Думала яна, думала, урэшце знайшла захаванку — закапала ў гародчыку. І думаеце? Таксама знайшоў. Як жа — чорт памог. **(Ад Плёскаў).**

## КАЎТУН

Што такое каўтун? Сплеценае, збітае валоссе. Пэплях такі вісіць. У дарослых быў і ў дзяцей. Трымалі яго на галаве да часу, да пары. О, ад галавы ўжо адрос, казалі, лечыць можна. Падпальвалі свечкамі, так лечылі.

— Адчапіся, то ўсё забабоны! Такая дзядзіна Настуся была. У яе і каўтуны былі і ўсё іншае было. Яна і прусы выцягала. Як? Як? За вусы выцягала. На вуліцу, і то да зыходу сонца, бо інакш не памагло б. То так тыя прусы выцягала, каб выцягнуць хваробу з хаты. Як выцягала? З унучкай сваёй Ганнай бралі прусы за вусы, яны ж маюць вусіска, і цягнулі. Ха-ха! Ой хлопцы, бывала, смяяліся, смяяліся.

А з тымі прусамі то смешна было. Бывала, кураняткі як павылазяць, так і бегаюць за тымі прусамі. Дзюб-дзюб і няма. Куры любілі іх есці. Трубы мы рабілі такія з кары, клалі ў іх троху бульбы ці хлеба. Налезе туды, бывала, столькі тых прусаў, што як хутка выцягнеш на двор, то накорміш усіх курэй.

Настуся, то жонка дзядзькі Івана, брата твайго дзеда Мікіты. Дзядзька Іван то нібы і разумны быў, ікону насіў на святок. Але тых забабонаў то ў яго было хоць адбаўляй. І так ён у іх верыў. То ж калісь запалкаў не было. Агонь у чарапочку пазычалі адзін ад аднаго. А ён, дзядзька, у такі забабон верыў, што перад заворваннем ці перад засейваннем нельга пазычаць агонь. І не пазычыў маёй маме нават маленькага вугольчыку, бо яшчэ не засеяў. **(Ад Пушчы Белавежскай).** **(вв)**

# ЦАРКВА Ў РЫБАЛАХ

Даўней вёска Рыбалы ляжала больш на поўдзень, да ракі Нарвы, у месцы, дзе цяпер расцягваецца ўрочышча, званае Царковіска. Жыхары яе займаліся рыбалоўляй. У час „валочнай меры“ (1556) іх перасялілі на новае месца і вёску назвалі Антонавічы. Новая назва, якая выступае ў дакументах XVI і XVII ст.ст., не прыжылася сярод людзей.

Асобныя часткі цяперашняй вёскі Рыбалы маюць назвы: Кунэць, Вульшына, Новосёлкі, Паўлоўска гуліца і частка, якая вырасла ў апошні час — сельскагаспадарчы камбінат (Курнікі).

У люстрацыі Падляшскага ваяводства з 1570 г. запісана, што царква ў новай вёсцы атрымала ва ўладанне 2 валокі зямлі, вольнай ад падаткаў. Інфармацыю пра царкву падаюць таксама люстрацыі з 1602 і 1626 г.г. У рэестры пагалоўнага (форма падатку) з 1676 г. названы „святчэннік з жонкай і яго чэлядзь“. У візітах дэкана ў г.г. 1751, 1763, 1764 падаецца дакладнае апісанне тадышняй царквы ў Рыбалах. Яна была драўляная, ашаляваная, накрытая гонтамі, з вежай, крытай бляхай. Візітацыя з 1795 г. інфармуе, што на кошт прыхаджан пабудавана „новая прыгожая святыня“ ў кшталце васьмівугольніка на моцным цагляным фундаменце, гэбляваная, вялікая, накрытая дахоўкай, з высокай вежай над уваходам. Названы аўтар праекта — Шэрынг.



План царквы. Мал. Б. Рудкоўскіна



Царква ў Рыбалах. Мал. Евы Мільчарскай.

У 1847-49 г.г. царква была адрамантавана, але зноў у 1873 г. яе разабралі і з яе дрэва разам з дрэвам раней разабранай царквы ў Кажанах пабудавалі могільнікавую капліцу св. Юрыя, якая датрывала да нашых дзён. („Ніва“ 1988, № 17).

А на месцы старой царквы ў г.г. 1874-1879 пабудавалі новую мураваную царкву. Яе пасвяцчэнне адбылося на трэці дзень Тройцы 22 мая 1879 г. і далі ёй імя св. Мучанікаў і бессярэбранікаў Кузьмы і Дзямяна. Царкву абгарадзілі плотам з камення, а ў 1906 годзе пабудавалі прыхадскі дом.

Да I сусветнай вайны царква атрымала багатыя дары, у гадах 1924-27 была прыгожа адрамантавана. Пасля II сусветнай вайны царкву ўзбагаціла прыгожая паліхромія, выкананая Уладзімірам Васілевічам у гадах 1944-46. У 1951 г. прыхаджане зафундавалі царкве звон, які важыць 662 кг. Зноў была рамантавана ў 1968 годзе. На юбілей стагоддзя высвяшчэння царквы ў 1979, 1980 гадах адбыліся тут вялікія ўрачыстасці з удзелам высокіх царкоўных гасцей. Рашэннем ваяводскага кансерватара забыткаў у Беластоку ад 30.XII.1987 царква Кузьмы і Дзямяна ў Рыбалах была ўпісана ў рэестр помнікаў культуры Беластоцкага ваяводства з нумарам 687.

**Р. С.**

# НА БЕЛАРУСКУЮ ТЭМУ

Адным з прыгажэйшых праяваў багатай культурнай дзейнасці Ваяводскага дома культуры ў Беластоку з'яўляецца выдавецкая дзейнасць. Апрача паэтычных зборнікаў, якіх выдаюць тут каля дзесяці ў год, у тым ліку і „белавежцаў“ (Мікола Гайдук — „Ціш“, Міхась Шаховіч — „Напевы“ і ў друку зборнік Юркі Баены), пачынаючы ад 1982 года, як прадаўжэнне колішняга „Беластоцкага Культурнага Даведніка“ і пазнейшых „Здажэняў“ выпускаюць свой уласны часопіс пад загалоўкам „Дыскусія“. Пачаткова паяўляўся ён нерэгулярна як бюлетэнь, прызначаны для ўнутранага карыстання. На працягу гадоў удасканальваўся пад вопытам рэдактара Івоны Вансовіч-Шчэпаняк і зараз з'яўляецца квартальнікам, які здабыў сабе пастаянных чытачоў на прэсавым рынку нашага ваяводства. З'яўляецца ён яшчэ адным часопісам, што выдаецца ў Беластоку.

„Дыскусія“ няраз закранала справы беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, якая сваёй традыцыяй і культурай уносіць багаты каларыт у жыццё нашай краіны, а ўжо ў асноўным паўночна-ўсходняга яе рэгіёна. Апошні нумар, які паявіўся на рынку, гэта значыць за другую чвэрць бягучага года, поўнасцю прысвечаны беларускім справам. Карыстаючыся нагодай трыццацігоддзя літаратурнага аб'яднання „Белавежа“, „Дыскусія“ зрабіла цікавы і змястоўны агляд праблем і дасягненняў беларусаў у Польшчы. Адначасова як для польскага, так і ў значнай ступені беларускага чытача гэта немалая крыніца ведаў, а ў асноўным упарадкаваны агляд творчай дзейнасці беларускай нацыянальнай меншасці ў цэласці, а не бачаны праз прызму Беларускага грамадска-культурнага таварыства, як гэта было ў звычаі. Тым больш, што частка аўтараў з'яўляецца па нацыянальнасці палякамі. Маю на думцы Эўгэніюша Шульборскага ці Яна Леанчука.

Вельмі цікавая таксама падборка тэмаў. Ахапляе яна ўсе асноўныя напрамкі творчага і культурнага жыцця і дзейнасці беларусаў у Польшчы, пачынаючы ад гісторыі, а канчаючы на сучаснасці. І так, Антон Мірановіч у публіцыстычным нарысе пад загалоўкам „Беларусы і палякі — гісторыя надзеі і расчараванняў“ звяртае ўвагу на тыя істотныя моманты ў гісторыі суседства беларусаў і палякаў, якія мелі пераломнае значэнне і няраз змянялі ўвесь ход падзей. Пачынае ён з глыбокага X стагоддзя, калі беларускія землі ўваходзілі ў склад Кіеўскай Русі, а на тэрыторыі палян нараджалася дзяржава. Вядома — гэта толькі павярхоўны агляд і сігналізацыя тэмы, але чытачу, які цікавіцца гісторыяй, будзе яна стымулам да пашырэння ведаў.

Сакрат Яновіч у артыкуле „У Беластоку — другі на свеце“ прадстаўляе гісторыю заснавання і дзейнасць „Нівы“, а таксама яе ролю ў жыцці беларусаў. Чацвёртая дзесятка, якая пайшла

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


БЕЛАРУСКАЯ КАЗКА




Хадзіў па лузе конь.

Ідзе леў.

— Ідзі за мною! — загадаў леў.

— А чаго я пайду? — пытае конь.

— Як смееш ты размаўляць так са мною? — крыкнуў грозна леў. — Ці не ведаеш, хто я? Я — звер над звярамі. Я галодны і хачу цябе з'есці.

— Э, — кажа конь, — не тыя цяпер часы, што хто каго нагне, той таго наб'е.

— Ты асмельваешся думаць, што я слабейшы за цябе?

— Я ў гэтым ўпэўнены, — кажа конь.

— Давай прабаваць сілу.

Ляжаў на лузе камень.

— Хадзі сюды, — кажа конь.

Падышлі да каменя.

— Ты можаш так стукнуць па гэтым камені, каб з яго іскры пасыпаліся?

Драпануў леў лапаю па камені — кіпцюры паламаў.

— Эх, леў, леў! А яшчэ называеш сябе звяром над звярамі. Глядзі, як я стукну.

У каня на нагах былі сталёвыя падковы.

Стукнуў конь капытом па камені, іскры так і ўзвіліся.

Спалохаўся леў, кінуўся ён назад у лес. Бяжыць не аглядаецца.

— Куды бяжыш, леў? — пытае яго воўк.

Сказаў леў ваўку, якога страшнага звера ён спаткаў.

— І ты яго збаяўся? — пытае воўк. — Эх, каб ён мне папаўся, я хутка з ім справіўся б. Толькі пакажы мне яго.

Узяў леў ваўка ў пярэднія лапы, сам на заднія стаў.

— Глядзі!

Льву здавалася, што ён памаленьку ваўка трымаў, а ў таго косці хруснулі і дух выскачыў вон.

— Ну, што, бачыш?

Нічога не адказвае воўк.

— Што ж ты маўчыш?

Апусціў леў ваўка на зямлю, бачыць — не дыхае воўк.

— Эх ты, хвалько, толькі ўбачыў яго і то самлеў. А я прабаваў з ім сілу!

Кінуў леў ваўка, а сам далей пабег.



Сябры „Зоркі" з Кляшчэляў. Фота Я. Чэрнякевіч.

Уладзімір Дубоўка

## ПРА СПАДЧЫНУ ДАЛЁКІХ ПРОДКАЎ

Пачатак у папярэднім нумары

Багата ў нашай супольнай з ім працы было падобных выпадкаў, але не менш цікава і тое, як мы з ім пачыналі сваю штодзённую работу.

Першыя дні я крыху непакоіўся. Прыходзім мы на сваю рабочую пляцоўку. Усе да аднаго становяцца адразу працаваць, а мы... мы пачынаем вастрыць усе інструменты: жалезкі ад фуганкаў, фальцовак, стамескі.

— Сяргей Аляксандравіч! Пакіньма! Бачыш, колькі сябры зрабілі?

— Няхай робяць, няхай! Яны свае рукі панабіваюць. Ды і якасць іхняе работы будзе несамавітая. А мы з табой іх здагонім і абгонім.

Так і было. Наш інструмент толькі спяваў, калі мы пускалі яго ў поўны ход. Да абеду мы сапраўды абганялі сваіх суседзяў... А яны гневаліся.

— Што з імі раўняцца?! У іх жалезкі лепшыя!

А жалезкі тыя — з аднае фабрыкі...

У сваёй далейшай працы часам падсвядома выкарыстоўваў я падобныя парады, назіранні і не толькі ў сталярнай справе, а і ў розных іншых, як, напрыклад, у мулярскай...

### АСІПАВЫЯ ДРОВЫ

А яшчэ вось як народная дасціпнасць дапамагла нам пазбавіцца дужа непрыемнай аперацыі: у нядаўна адрамантаванай кватэры зімою здымаць жалезную трубу, якая злучала нашу галандачку з комінам у сусед-

(Праціг на стар. 10)



Удзельніца конкурсу беларускай песні для школьнікаў Крыся Якімюк з Чыжоў. Да конкурсу яе рыхтавала настаўніца Ніна Аламюк.

Фота Я. Чэрнякевіч.

Ніл Гілевіч

## ЗАЙЧЫК — УЦЯКАЙЧЫК

Заканчэнне.

Пачатак у папярэднім нумары.

Паехала ў нядзелю
Уся сям'я у госці,
Забыўшы прызапасіць
Для шарака яды.
Шарак адзін застаўся
І цэлы дзень у хаце
Скакаў-скакаў галодны
І нарабіў бяды.

Калі дадому ўранку
Вярнуліся назаўтра —
Страшэнны крык і лямант
Бабуля падняла:
Любімыя вазоны
Ушчэнт паабгрызаны!
Правіннасць шаракова
Усім відаць была.

І чуе тут Сяргейка —
Бабулі кажа бацька:
— За гэтае злачынства
Ён знойдзе кару ў нас.
Калі такі свавольнік —
Прадам яго, і толькі!
На рынак паслязаўтра
Збіраюся якраз...

Увесь той дзень прыціхлы,
Маўклівы быў Сяргейка —
Як быццам нейкі клопат
Адолеў хлапчука.
А вечарам у хаце
Адкрылася прапажа —
Знік зайчык-уцякайчык!
Не стала шарака!

Усе куткі-закуткі
Агледзела бабуля,
І ў сенцах, і ў бакоўцы
Праверыла сама.
І тут заплакаў раптам,
Не вытрымаў Сяргейка,
Уткнуўся бацьку ў грудзі:
— Яго ўжо ў нас няма!..

Уцёк... Пабег у поле...
Яшчэ перад абедам...
Спалохаўся ён надта,
Што прадасі яго...
Тады ўсміхнуўся бацька
Шырока, добра, ветла
І ласкава прамовіў
Да хітруна свайго:

— Ну, а чаго ж ты плачаш?
Уцёк —
няхай гуляе!
Яму на волі ў полі,
Напэўна будзе лепш.
Я радуюся нават
І на цябе не маю
Ані крупінкі злосці.
Дарэмна слёзы льеш!

А слёз тых і няма ўжо —
Адразу ж суняліся,
І вейкі ўміг абсохлі,
І вочы зіхацяць.
І так сардэчна, моцна
Сын з бацькам абняліся,
Што ў момант той ніхто іх
Не здолеў бы разняць.



## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### ПРЫСВЯЧЭННЕ ГОРАДУ

*Музыка С. Бельцюкова*
*Сл. Л. Дранько-Майсюка*

*Горад мой — плошчы і скверы*
*Пад святлом Зоркі Венеры.*
*Горад мой пад святлом*
*Адпачне чыстым сном.*

*Прыпеў:*

*І як дзеці, засынаюць аркі і*
*калоны,*
*І як дзеці, засынаюць вокны*
*і балконы,*
*Засынаюць, засынаюць шыльды*
*і вітрыны,*
*Заціхае, заціхае горад мой адзіны.*

*І толькі ранак,*
*Цудоўны ранак* } 2 разы
*Парушыць гэты сон.*

*Позні час — хочацца верыць:*
*Не засне Зорка Венера,*
*А засне чыстым сном*
*Кожны двор, кожны дом.*

*Прыпеў.*

*Хай заўжды будзе ў кватэры*
*Гасцяваць Зорка Венера,*
*Хай заўжды чыстым сном*
*Горад спіць за акном.*

*Прыпеў.*

## НІЎКА




Скупы і цэню свайго не пазычыць.

I чужога не хачу, і свайго не папушчу.

Мінуты цягнуцца, а гады ляцяць.

Што танней: мець сто рублей ці добрага сябра ў гандлі?



Можна не ведаць самому, пачым фунт ліха, але другім гэта зможаш растлумачыць.

### РЭВАНШ

— Шурык, Шурык, ідзі ты ў хату! — крычала жонка.

— А што такое, чаго ты крычыш?

— Шурык, скажы ты мне, дзе ты быў, калі я драмала?

— Дзе быў, дзе быў! У суседзяў Любавіцкіх.

— Няпраўда, — закрычала жонка. — Ты быў у Любавіцкай!

— А якая гэта розніца?

— А пэўна, што ёсць розніца! Адна справа быць, а іншая — цалавацца.

— Я ж яе не цалаваў!

— Брэшаш! — закрычала жонка, — я ўсё падгледзела.

— Яшчэ раз табе тлумачу, што я яе не цалаваў. Гэта яна мяне цалавала.

— Вось дык шэльма! — віснула жонка. — А што яна табе гаварыла?

— Цалавала і ўсё шаптала, хай хоць крыху будзе суседскага рэваншу.

**Іосіф Карпюк**

*

Адзін марак вырашыў зрабіць сабе татуіроўку, і яму накалолі на спіне карту свету. Аднойчы ён захварэў і прыйшоў на прыём да лекара.

— Так, дзе ў вас баліць? — пацікавіўся доктар.

— У Бразіліі...

*

— Пані суседка, ваш муж так пахудзеў! Як яму гэта ўдалося?

— Кожны дзень ходзіць рыбачыць.

— I ад гэтага так худзеюць?

— Вядома. Ён есць толькі тое, што зловіць.

*

— Мама, мышка ўскочыла ў бітон з малаком!

— Ты выцягнула яе?

— Не, але я кінула туды ката.

*

У чужое проса не сунь носа.

*

Якім зярном сееш — такім і вееш.

*

Што кажух — то не вата, што капуста — то не гарбата.



Стомленасць матэрыяла.




— Падвастры!




Да добрага суседа добра й на бяседу, а к абы-якому, то лепш сядзі дома.

### СТРЫП-ЦІЗ

З медыцынскага пункту гледжання іх не заквалiфікуеш да групы дурных, а з пункту гледжання іх паводзін да дурняў можна залічыць, а нават назваць дэмаралізатарамі.

Свайго аднавяскоўца, маладога чалавека, яны наманвалі, наманвалі і наманулі, каб той за паўлітра раздзеўся дагала і пайшоў па вуліцы спяваючы. І гэтак зрабіў гэты нешчаслівы малады чалавек, які мае часамі псіхічныя прыпадкі, а спомненыя дурні ад задавальнення рагаталі, за жываты беручыся. Ім няважна, што па вуліцы ходзяць жанчыны, дзеці, ездзяць легкавыя, грузавыя аўтамашыны, аўтобусы.

А аднойчы ехала па шашы праз Рыбалы легкавая замежная машына, кажуць што з ФРГ. Пасажыры фатаграфавалі гэты нязвыклы, бясплатны мужчынскі стрыптыз, смяяліся з такой сенсацыі, якая, магчыма, паявіцца ў іхніх газетах.

Наманванне гарэлкай на ненармальныя ўчынкі нездаровага чалавека можна кваліфікаваць да злачынства, а ў гэтым выпадку і да зневажэння вёскі. І таму такой някчэмнасцю павінны зацікавіцца адпаведныя органы.

(мс)




Спадкі дзяліць сабраліся — за нажы пабраліся.